№ 11 (59)
Чэрвень 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"




В. Шчукін і М.Статкевіч у зале суда.

## Восем месяцаў пад прыцэлам

### Справа Статкевіча-Шчукіна: вынясеньне прысуду ў чарговы раз адкладзенае

Нерашучасьць беларускіх судовых уладаў, відавочнае жаданьне як мага далей аднесьці прыняцьце канчатковага рашэньня па крымінальнай справе, узбуджанай супраць старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Міколы Статкевіча і дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, вядомага журналіста і праваабаронцы Валерыя Шчукіна — яшчэ адно яскравае сьведчаньне таго, што судзьдзі выдатна разумеюць, якія супрацьзаконныя дзеяньні выконваюцца з іх дапамогай. Пастаянныя пераносы дня вынясеньня прысуду былі таксама ў справах Васіля Лявонава, Андрэя Клімава, Міхаіла Чыгіра... Толькі за два тыдні чэрвеня судовыя паседжаньні па справе Статкевіча-Шчукіна пераносіліся чатыры разы. Чарговае паседжаньне 13 чэрвеня таксама не адбылося, яго перанесьлі на іншы дзень. Валеры Шчукін выказаў парадаксальную думку-тлумачэньне гэтай зьявы: судзьдзя вынес апраўдальны прысуд, але гэта не спадабалася тым, хто знаходзіцца пры ўладзе. І таму, каб перапісаць прысуд, спатрэбілася яшчэ некалькі дзён. Валеры Шчукін лічыць, што "новы", "перапісаны" прысуд будзе абвінаваўчым, а само абвінавачаньне – умоўнае пакараньне. Вялікая доля праўды ў гэтым меркаваньні ёсьць, бо і сапраўды, абарона разьбіла ўсе абвінавачаньні, вылучаныя супраць М.Статкевіча і В.Шчукіна. Дарэчы, М.Статкевіч абвінавачваецца ня толькі за ўдзел у "Маршы Свабоды-1" 17 кастрычніка мінулага году, як В. Шчукін, але і як арганізатар сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці 27 ліпеня 1999 году. Паводле артыкула 186-3 КК РБ «Арганізацыя ці актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія парушаюць грамадзкі парадак», пракурор Галіна Ганчарова запатрабавала для М. Статкевіча пакараньня ў выглядзе пазбаўленьня волі тэрмінам на два гады з адбыцьцём у калоніі агульнага рэжыму, а для В. Шчукіна — пазбаўленьня волі тэрмінам на паўтары гады з адтэрміноўкай выкананьня пакараньня на адзін год. Нагадаем, што крымінальная справа ў кастрычніку мінулага году была ўзбуджаная ня толькі супраць Статкевіча і Шчукіна, але і яшчэ супраць чатырох маладых удзельнікаў "Маршу...". Затым справа супраць моладзі была вылучаная ў асобную, а потым хлопцы і ўвогуле "зьніклі" — выехалі за межы Беларусі...

І М.Статкевіч, і В. Шчукін у сваіх апошніх словах заявілі, што лічаць узбуджаныя супраць іх справы выключна палітычнымі. З выняткамі з іх выступаў можна пазнаёміцца *на стар.3.*

## Хроніка

***28 траўня*** ксёндз брэсцкага касьцёлу Узьдзьвіжаньня Сьвятога Крыжа Збігнеў Кароляк быў вымушаны пакінуць Брэст. Паводле словаў юрыста Ігара Кабаліка, які прадстаўляе інтарэсы касьцёлу, афіцыйнай падставай для выгнаньня Кароляка з Беларусі сталі папярэджаньні і штраф за знаходжаньне ў Брэсьце з 18 сакавіка без рэгістрацыі, як гэтага патрабуе беларускае заканадаўства ў дачыненьні да замежных грамадзянаў. Але вядома, што Збігнеў Кароляк не дагадзіў брэсцкім уладам сваёй незалежнай пазіцыяй.

***29 траўня*** прадстаўнікі Грамадзкага аб'яднаньня "Беларуская арганізацыя працоўных жанчынаў" на чале са старшынёй М.Аліевай у суправаджэньні здымачнай групы студыі "Тацяна" прыйшлі на прыём да дэпутата Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу У. Канаплёва (які ў гэты час адсутнічаў). У прыёмнай, пасьля ўзьнікшай спрэчкі са старшынёй Шклоўскага райвыканкаму Аляксандрам Агеевым, жанчыны падверглiся нападу з боку журналіста шклоўскай газеты "Ударный фронт" Міхаіла Бабка. Узьнікла бойка, падчас якой старшыня мясцовай арганізацыі БАПЖ Л. Каверка пабегла выклікаць міліцыю. Вечарам таго ж дня Любоў Каверка ў сваёй кватэры была затрыманая супрацоўнікамі міліцыі і дапытаная, падчас чаго высьветлілася, што М. Бабок абвінавачвае Л. Каверку ў нанясеньні яму пабояў. На паседжаньні суда судзьдзёй А.Тараканавым было задаволенае хадайніцтва Л. Каверкі аб прыцягненьні дадатковых сьведкаў і допуску да справы ў якасьці свайго прадстаўніка Уладзіміра Адынца... Дата чарговага паседжаньня суда будзе прызначаная дадаткова.

*(Працяг на стар.6-7)*

# Выпіў толькі шклянку вады...

## Ці ўжываюцца ў Беларусі псіхатропныя сродкі ў дачыненьні да затрыманых?

**5 чэрвеня 2000 г. у Праваабарончы Цэнтр "Вясна" зьвярнулася Натальля Станіславаўна Раўкова ў сувязі з парушэньнем правоў яе мужа Уладзіміра Мікалаевіча Раўкова, 1956 г.н., абвінавачанага па арт. 169.3 па справе выкладчыкаў Гомельскага медінстытуту. Н.Раўкова сьцьвярджае, што ў дачыненьні да яе мужа былі ўжытыя псіхатропныя сродкі.**

Уладзімір Раўкоў (падпалкоўнік медыцынскай службы, прарэктар па выхаваўчай рабоце Гомельскага медінстытуту) быў затрыманы 12 ліпеня 1999 г. па падазрэньні ў атрыманьні хабару ад бацькоў абітурыентаў. Затрыманьне адбылося на тэрыторыі вучэбнага корпусу інстытуту, дзе сям'я Раўковых арандавала гараж. Паводле сьведчаньня дзяжурнага вахцёра, машыну У.Раўкова заблакавалі міліцэйскія аўтамабілі. У.Раўкова волакам пацягнулі да міліцэйскай машыны. У той жа дзень каля 20.00 гадзін у інтэрнат, дзе жыве сям'я Раўковых, уварваліся людзі ў бронекамізэльках і з аўтаматамі. Адзін з іх прапанаваў Натальлі Раўковай добраахвотна прад'явіць валюту, якая ёсьць у доме. Натальля Раўкова паказала 10 тысяч даляраў ЗША, якія яе маці атрымала за продаж дому ў ваенным гарадку Зябраўка, дзе Раўковы жылі да верасьня 1998 г. (дамова аб куплі-продажы аформленая ў натарыяльнай канторы Гомельскага раёну 4 верасьня 1998 г.).

Натальля Раўкова (медык па адукацыі) упэўненая, што пры доўгіх начных допытах яе мужа выкарыстоўваліся псіхатропныя сродкі. У якасьці прыкладаў Н.Раўкова прыводзіць наступныя факты:

"У ноч на 14 ліпеня з 0.45 да 2.35 у нас у інтэрнаце зноў праходзіў вобыск. Нічога не знайшлі, але на пачатку трэцяй гадзіны ночы супрацоўнік міліцыі даў мне тэлефонную трубку і сказаў, што я буду размаўляць з мужам. Голас мужа я пазнала, але манатоннасьць і зьмест размовы мяне напалохалі. Мой муж сказаў: "Аддай грошы і пісталет з патронамі". У мужа быў зарэгістраваны газавы пісталет. Ён захоўваў яго ў сейфе на працы і часам браў яго з сабою ў машыну, дома пісталету ніколі не было. Пра гэта было вядома ўсім членам сям'і. Фраза пра пісталет навяла мяне на думку, што з мужам ня ўсё ў парадку. Са мною здарылася істэрыка, пасьля чаго міліцыя сышла. На наступны дзень я спрабавала абмеркаваць начную размову са сьледчым Кругляковым В., на што той рэзка сказаў, што пра начную размову я павінна забыць.

15 ліпеня майму мужу павінны былі прад'явіць абвінавачаньне, і я з адвакатам была ў пракуратуры. Там я абсалютна выпадкова пабачыла мужа. Ён стаяў з адным міліцыянтам у калідоры. Я падышла, паспрабавала з ім загаварыць. Але ён проста мяне не разумеў, ствараў уражаньне чалавека затарможанага, з неадэкватнай рэакцыяй. 16 ліпеня я напісала заяву на імя пракурора вобласьці і сьледчага Аляксандрава, дзе прасіла правесьці абсьледаваньне мужа на прадмет яго псіхічнага здароўя. Заява засталася без адказу. 12 жніўня я зьвярнулася з заявай да пракурора РБ аб магчымасьці ўжываньня псіхатропных сродкаў у дачыненьні да майго мужа і атрымала адказ ад начальніка сьледчага аддзелу А.Ракевіча пра тое, што "пытаньне аб правядзеньні эксьпертызы будзе вырашанае ў працэсе расьсьледваньня крымінальнай справы".

На спатканьні з мужам, якое адбылося праз два тыд-ні, я ўжо бачыла нармальнага чалавека са звычайнымі паводзінамі. На маё пытаньне пра начную размову наконт пісталету з патронамі муж спачатку адмаўляў рэальнасьць такой размовы, але пасьля патлумачыў, што яго ў той дзень дапытвалі з 14.00 да 3 гадзінаў

(Працяг на стар.7)

# Вярхоўны суд выпраўляе памылкі

**Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь адмяніў рашэньні двух судзьдзяў г.Барысаву па дзьвюх справах аб прыцягненьні да адміністратыўнай адказнасьці лідэра барысаўскіх сацыял-дэмакратаў Аляксандра Абрамовіча, пры гэтым адну справу спыніў, а другую накіраваў на новы разгляд іншаму судзьдзі. Прыцягнутыя да адказнасьці і супрацоўнікі ізалятару часовага ўтрыманьня Барысаўскага ГУУС, якія дапусьцілі сумеснае ўтрыманьне А.Абрамовіча з хворымі на туберкулёз.**

Лідэр сацыял-дэмакратаў г.Барысаву (Мінская вобласьць) Аляксандр Абрамовіч, адбыўшы чарговы тэрмін пакараньня ў выглядзе адміністратыўнага арышту тэрмінам 15 сутак за арганізацыю несанкцыянаванага пікету супраць абвінаваўчага прысуду Міхаілу Чыгіру, 8 чэрвеня прадставіў у Праваабарончы Цэнтр "Вясна" дакументы, атрыманыя ім пасьля зьвызваленьня: пастановы Вярхоўнага суда РБ аб адменах двух папярэдніх судовых рашэньняў пра прыцягненьне яго да адміністратыўнай адказнасьці.

Вярхоўны суд РБ пад старшынствам В.А.Сукалы, 22 траўня 2000 г. адмяніў рашэньне суда г.Барысаву ад 3 лютага 2000 году аб прыцягненьні А.Абрамовіча да адміністратыўнай адказнасьці ў выглядзе пазбаўленьня волі тэрмінам 15 сутак за арганізацыю 16 студзеня гг. на Цэнтральнай плошчы г.Барысаву несанкцыянаванага пікету супраць дыктатуры ў Беларусі і з патрабаваньнем неадкладнага пошуку зьніклых дзеячаў беларускай апазіцыі. Як адзначана ў пастанове Вярхоўнага суда, падставай дзеля адмены судовага рашэньня судзьдзі Барысаўскага гарадзкога суда стала тое, што, згодна з заканадаўствам, асоба, якая прыцягваецца да адміністратыўнай адказнасьці, павінна быць азнаёмлена з матэрыяламі справы, а гэта не было зроблена. Больш за тое, у пратаколе аб адміністратыўным правапарушэньні не ўказаная частка артыкулу 167 КаАП, згодна з якой А.Абрамовіч прыцягваецца да адказнасьці – такім чынам, у пратаколе адсутнічаў нарматыўны акт, які прадугледжваў адказнасьць за парушэньне. Судзьдзя, які выносіў прысуд, павінен быў вярнуць пратакол дзеля выпраўленьня яго недахопаў органу або службовай асобе, якая яго складала, і вынесьці пастанову пра гэта, што таксама не было зроблена. А паколькі недахопы, якія былі дапушчаныя службовымі асобамі органаў унутраных справаў пры складаньні пратаколу, не былі выпраўленыя на працягу 2 месяцаў (згодна з арт. 37 КаАП РБ), і магчымасьць іх выпраўленьня ўжо страчаная, пастанова, вынесеная барысаўскім судзьдзёй па гэтай справе, была адмененая, а справа спыненая.

У той жа дзень, 22 траўня, Вярхоўны суд РБ разгледзеў і другую скаргу Аляксандра Абрамовіча на пастанову судзьдзі ад 15 лютага 2000 году, згодна з якой ён быў абвінавачаны ў арганізацыі 14 лютага несанкцыянаванага пікету каля будынку суда г.Барысаву супраць карупцыі і ў падтрымку барысаўскага прадпрымальніка Ігара Ледніка, суд над якім распачаўся ў той дзень. 14 лютага А.Абрамовіч быў затрыманы, а калі назаўтра адбыўся суд, то на ім разглядаўся не адзін, а два матэрыялы пра адміністратыўныя парушэньні (яшчэ за арганізацыю несанкцыянаванага пікету 5 лютага супраць вайны ў Чачні). У выніку няправільнага прымяненьня закону, згодна з якім пакараньне ў адным судовым разглядзе аналагічных правапарушэньняў павінна выносіцца за больш сур'ёзнае парушэньне, па двух справах, разгледжаных аднначасова, судзьдзя вынес пакараньне па кожным з іх агульным тэрмінам на дваццаць сутак (па 10 сутак за кожнае), у той час калі гэты тэрмін не павінен быў перавышаць 15 сутак. У пастанове Вярхоўнага суда ўказана, што гэтае рашэньне судзьдзі г.Барысаву павінна быць адмененае, і пры новым разглядзе дадзеныя справы павінны быць разгледжаныя адначасова іншым судзьдзёй, і па іх вынесенае рашэньне, якое адпавядае дзеючаму заканадаўству.

А.Абрамовіч паведаміў таксама ПЦ "Вясна", што атрымаў ліст з УУС Мінскага аблвыканкаму МУС РБ, у якім сказана, што супрацоўнікі ізалятару часовага ўтрыманьня г.Барысаву, якія дапусьцілі ўтрыманьне яго разам з хворымі на туберкулёз падчас адбываньня адміністратыўнага арышту тэрмінам 35 сутак, прыцягнутыя да адказнасьці правамі начальніка Барысаўскага ГАУС.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна"**

# Свабода альбо сьмерць...

## Вытрымкі з апошняга слова Міколы Статкевіча


Мікола Статкевіч.

...Безумоўна, гэта палітычны працэс, Абвінавачаньне само недвухсэнсоўна зараз заявіла пра гэта, заявіла пра ацэнку маіх дзеяньняў як палітыка. Як палітык я і буду адказваць па гэтым абвінавачваньні.

Карані шмат якіх праблемаў Беларусі, нават персьпектывы іх вырашэньня, палягаюць у тым, што, у адрозьненьне ад астатніх краінаў гэтай часткі сьвету, якая завецца Еўропай, у нашай краіне кіруе адзін чалавек. Ён у адзіночку прымае законы, ён кіруе парламентам, эканомікай, ён прызначае кіраўнікоў, прызначае судовую ўладу і, як вынік, у цывілізаваным сьвеце нашу краіну лічаць, так бы мовіць, «хворым чалавекам». Уся гэтая палітыка прывяла да таго, што ў Беларусі няма персьпектывы, няма будучыні. Нашая эканоміка ўжо не вытрымлівае кіраваньня невукамі. (...)

Наша ўлада панічна баіцца праяваў незадаволенасьці. Яна імкнецца іх схаваць. Яна прымае законы", якія забараняюць любыя формы грамадзкай нязгоды, прычым законы прымае, па сутнасці, адзін чалавек. Яна адсылае тых, хто нязгодны, пратэставаць на ўскраіны гарадоў, у лесапарк. Яна, ўрэшце рэшт, ідзе на рэпрэсіі, ідзе эскалацыя рэпрэсіяў. Я ўспамінаю, з чаго ўсё пачыналася. Спачатку былі невялікія штрафы. Япы палохалі людзей, але гэта было перадолена. Потым пачаліся тэрміны адміністратыўнага пакарання: 5, 10, 15 сутак арышту. Гэта не спыніла людзей. Тады пачаліся жудасныя штрафы, 150 мінімалак — у 1997-м годзе гэта было 1000 даляраў. Я атрымліваў такія штрафы, да мяне прыходзілі апісваць маёмасьць. Гэта ўсё было. Прывыклі і да гэтага. Зараз ідзе наступная стадыя эскалацыі — крымінальны перасьлед арганізатараў.

Але ўсё ж такі, нягледзячы на страх, зноў расьце колькасьць удзельнікаў масавых акцыяў, таму што людзі разумеюць, што іншага выйсьця няма, што трэба нешта рабіць, бо неадэкватныя людзі кіруюць краінай. (...)

У нас дзьве праблемы: жабрацтва і Чарнобыль. Яны перамяжаюцца. Па прагнозах сьпецыялістаў, калі сітуацыя ня зьменіцца, калі нейкі імпульс разьвіцьця ня будзе дадзены ў эканоміцы, калі ня здолеем забясьпечыць чыстым харчаваньнем сябе і дзяцей, то праз 10-15 гадоў нас будзе ужо 7-8 мільёнаў, чвэрць з якіх — сур'ёзна хворыя.

Я ў нядзелю быў у Магілёве. Там мне назвалі жудасную лічбу. За 1999 год з усіх народжаных дзяцей у гэтым горадзе толькі 4% не мелі паталогіі, 96% — дзеці з паталогіяй.

Сітуацыя такая, што гэты блок, дэмакратычны, радыкальны, маладзёжны, «свабода альбо сьмерць», у нашых умовах набывае сэнс выбараў альтэрнатыўнага разьвіцьця краіны. Што мы выбярэм: свабоду, свабоднае разьвіцьцё, мабілізацыю ўсіх сілаў грамадзтва дзеля выжываньня альбо проста ціха памрэм, і сьвет забудзе пра нас?

У нас няма іншага выйсьця, як змагацца, У нас зараз няма іншай формы для змаганьня, як масавыя акцыі. Мы імкнемся праводзіць іх мірна, робячы ўсё магчымае, каб не было сутыкненьняў, Але калі ўлада хоча зрабіць гэтыя сутыкненьні, у яе больш магчымасьцяў, і яна імкнецца гата зрабіць,

Я думаю, што барацьба будзе працягвацца, незалежна ад таго, будзе Статкевіч у турме альбо не. Бо сапраўды: воля або сьмерць. Я думаю, нават і такія прысуды, якія па патрабаваньні абвінаваўчага боку будуць рэалізаваныя, ня здолеюць нас запалохаць.

---

# Нас не запалохаюць і ня спыняць!

## Вытрымкі з апошняга слова Валерыя Шчукіна


Артыя Валеры Шчукін.

...Вас вымусілі судзіць палітычных дзеячаў за... палітычную дзейнасьць. На жаль для ўладаў, палітычных артыкулаў у крымінальным кодэксе няма. Але калі вось ужо год як нявыбраны кіраўнік дзяржавы застаецца пры ўладзе, дык артыкул такі, падобна, зьявіцца абавязкова. А пакуль непажаданых рэжыму народных выбраньнікаў адхіляюць ад грамадзкай і парламенцкай дзейнасьці па артыкулах Крымінальнага кодэксу. (...)

Тлумачу суду, што дзяржаўны абвінаваўца ў гэтым працэсе стаіць не на варце закону, а выконвае палітычны заказ вышэйшага кіраўніцтва краіны. Напярэдадні выбараў праваахоўчыя органы праводзяць "выняткі" актыўных палітыкаў і "зачыстку" перадвыбарчай тэрыторыі.

Удзельнікі працэсу, праглядваючы відэаздымкі, атрымалі дастаткова поўную інфармацыю пра тое, як гэта робіцца з шараговымі выбаршчыкамі. З прэтэндэнтамі на палітычную ўладу робяць яшчэ больш жорстка. Пакладзены ў магілу рэальны кандыдат на пост прэзідэнта Генадзь Карпенка, ліквідаваны іншы небясьпечны для рэжыму прэтэндэнт на гэты пост— Віктар Ганчар. З дапамогай суда накладзеная васьмігадовая забарона на ўдзел у выбарах мажлівага на сёньня кандыдата ад апазіцыі Міхаіла Чыгіра.

Вялікія надзеі на адхіленьне ад выбарчай кампаніі непажаданых прэтэндэнтаў рэжым ускладае на адміністратыўныя пакараньні. Імі абклалі практычна ўсіх выбітных палітыкаў. Аднак пад ціскам міжнароднага супольніцтва ўлады вымушаныя былі гэтую норму адмяніць.

Кіраўнік рэжыму не прымае шчырай палітычнай барацьбы — выбараў. Фізічная ліквідацыя альбо крымінальны прысуд — вось ягоныя метады барацьбы з сапернікамі.

Мікола Статкевіч для прэзідэнта Лукашэнкі дужа нязручная фігура ў парламенце. Ня кажучы ўжо пра тое, што гэты палітык можа скласьці непажаданую канкурэнцыю кіраўніку рэжыму і на прэзідэнцкіх выбарах. Не прымальная і прысутнасьць у парламенцкай зале Валерыя Шчукіна. Рэжым не пускае мяне туды нават як журналіста. Улады вельмі турбуюцца, што ім ня ўдасца абысьці М.Статкевіча і В.Шчукіна ў перадвыбарчай гонцы, і вырашылі перастрахавацца: не дапусьціць нас праз крымінальны прысуд да ўдзелу ў выбарчай кампаніі. Вось чаму дзяржаўны абвінаваўца патрабаваў для М.Статкевіча менавіта два гады: каб перакрыць паўтарагадовы тэрмін, які застаўся да плануемых рэжымам прэзідэнцкіх выбараў у 2001 годзе. Па гэтай жа прычыне пракурор Г.Ганчарова патрабуе для мяне ня ўмоўнага асуджэньня, а адтэрміноўкі выкананьня прысуду менавіта на два гады — больш доўгі тэрмін, чым нават сам тэрмін асуджэньня. Апошняе якраз і характарызуе палітычны заказ на прысуд суда... Бо пры адтэрміноўцы выкананьня прысуду, у адрозьненьне ад крымінальнага асуджэньня, мяне можна схаваць у турму пасьля першага ж адміністратыўнага спагнаньня за ўдзел у палітычнай акцыі. Таму што ні тысячадаляравыя штрафы, ні адміністратыўныя арышты, тэрміны якіх вымяраюцца ўжо дзясяткамі сутак, не спынілі мяне. І ня спыняць!

Заяўляю суду, пракуратуры, міліцыі, сьпецслужбам рэжыму, а галоўнае, беларускаму народу: хаджу, хаджу і буду хадзіць там, дзе я лічу патрэбным, падпарадкоўваючыся толькі законам дзяржавы! Ні Лукашэнка, ні Ярмошын, ні нейкі іншы чыноўнік мне ў гэтым ня ўказ!..

# Міхаіл Чыгір: "Я зраблю ўсё, каб стаць прэзідэнтам Беларусі"

Прайшло амаль тры тыдні, як мінскім гарадзкім судом быў вынесены прысуд Міхаілу Чыгіру. Былы кіраўнік беларускага ўраду, цяпер адзін з лідэраў апазіцыі, асуджаны на тры гады пазбаўленьня волі з двухгадовай адтэрміноўкай і абавязаны выплаціць дзяржаве нанесеныя ім (згодна з судовымі матэрыяламі) страты: больш за 200 тысячаў даляраў ЗША.

Справа М.Чыгіра, аднак, зусім ня скончылася вынясеньнем "умоўнага" прысуду. Міхаіл Мікалаевіч вымушаны спраўна наведваць сьледчы камітэт, куды яго выклікаюць на допыты. Два эпізоды абвінавачваньня вылучаныя ў асобную справу, і па іх цяпер ідзе расьсьледваньне.

Разьбіраюцца сьледчыя органы (у прыватнасьці, гарадзкая пракуратура г.Мінску) і з жонкай М.Чыгіра. Юлія Станіславаўна абвінавачваецца ў... нанясеньні лёгкіх цялесных пашкоджаньняў міліцыянту.

Калі ня ведаць рэчаіснасьці нашай краіны, дык можна падумаць пра сям'ю Чыгіроў кепска. Муж – злодзей, жонка – хуліганка... Але з досьведу нармальнага беларускага чалавека і грамадзяніна вядома іншае. Звычайна самыя мудрагелістыя справы і самыя абсурдныя абвінавачаньні ў нас "шыюцца", наадварот, людзям папросту сумленным. Самы жосткі тэрмін пакараньня наш "самы справядлівы" суд дае нават не забойцам, а людзям, якія ня зломваюцца, даводзячы сваю невінаватасьць. Такім чынам, турма на Беларусі – не для "горшых", умоўна кажучы, людзей, а для горшых і найлепшых. Усялякая шэрасьць героямі крымінальных справаў быць проста ня можа.

З гэтага, бадай, і пачнем наш расповед пра Міхаіла Чыгіра.

## Перадгісторыя.

Міхаіл Чыгір узначальваў "Белаграпрамбанк", калі ў ліпені 1994 году яму паступіла прапанова ад толькі што абранага прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі стаць прэм'ер-міністрам. Перш чым прыняць прапанову, кіраўнік банку выказаў прэзідэнту сваё зьдзіўленьне. Лукашэнка ж згадваў прозьвішча Чыгіра ў сваім яшчэ дэпутацкіх часоў антыкарупцыйным дакладзе, калі з-за надуманых абвінавачаньняў зьнялі з пасады сьпікера парламенту Станіслава Шушкевіча. "Усё нармальна," – адказаў Чыгіру кіраўнік дзяржавы. Пройдзе амаль шэсьць гадоў, перш чым Міхаіл Мікалаевіч прылюдна прызнае ў апошнім слове падсуднага: тады яго згода на высокую пасаду была памылкай. У 1994 годзе сёньняшні дыктатар быў нікому невядомым учарашнім дэпутатам з глыбінкі, пазаўчарашнім дырэктарам саўгасу. Многія кіраўнікі-гаспадарнікі гэтаксама, як М.Чыгір ды ўжо асуджаны Васіль Лявонаў, бачылі магчымасьць правядзеньня пры маладым прэзідэнце краіны эканамічных рэформаў. А эканоміка маладой незалежнай дзяржавы таго відавочна патрабавала. Але рэформам не суджана было зьдзейсьніцца. Папрацаваўшы на новай пасадзе трохі больш за два гады, М.Чыгір сыходзіць у адстаўку (кампанію прэм'еру складзе толькі міністр працы А.Сасноў).

Першым адказам эканомікі на зыход ў адстаўку Чыгіра было зьнікненьне з прылаўкаў мінскіх крамаў сьмятаны і масла. Памятаю, як у дзень "рэферэндуму" адсутнасьць некаторых прадуктаў зьдзівіла нашых калегаў з Польшчы...

Міхаіл Чыгір пачаў працаваць у адным з маскоўскіх банкаў, а ў 1999 годзе нечакана для многіх даў згоду на ўдзел у выбарах прэзідэнта краіны, арганізаваных апазіцыяй. За гэта ён і патрапіў у турму. Яго выпускаюць праз восем месяцаў. Яшчэ праз тры месяцы пачынаецца разгляд судовай справы. Ён працягваецца ад 19 студзеня да 19 траўня. Па словах самога М.Чыгіра, на працягу гэтых чатырох месяцаў ды і ўсяго мінулага году, яму даволі часта і вельмі празрыста намякалі на апошні шанец падсуднага спакойна жыць: зьехаць у іншую краіну. Рэжым ня стаў бы яго лавіць і заплюшчыў бы вочы ў патрэбны момант. Рэжым мае на мэце выжыць любога лідэра апазіцыі з Беларусі. Інакш рэжым можа ня выжыць тут сам.

І падставы дзеля гэтага ёсьць. Былы прэм'ер-міністр краіны выклікае ў народзе сімпатыю, нягледзячы на ўсе намаганьні ўладаў стварыць яму (а заадно і ўсёй яго сям'і) рэпутацыю злодзея і падманшчыка. Як і Лукашэнка, Чыгір родам з вёскі, да высокіх кіраўнічых пасадаў ён таксама прыйшоў "з народу". Мала таго: кандыдат у прэзідэнты добра знаёмы з сялянскай працай і нават захапляецца разьвядзеньнем пчолаў. А яшчэ людзі пачалі ўзгадваць, што пры Чыгіры-прэм'еры жылі лепш...

Вось тады і пачалося цкаваньне М.Чыгіра праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Пад шум кампаніі Лукашэнкі па барацьбе з нявернутымі крэдытамі ўдзельніка выбарчай кампаніі апазіцыі хуценька саджаюць у СІЗА. Прапаганда носіцца, як дурань з пісанай торбай, з мільёнам даляраў, нібыта незаконна выдадзеным пад кіраўніцтвам М.Чыгіра канадзкай фірме.

## "Цытадэль" для журналістаў, "калідор" для дыпламатаў...

З першага ж дня судовых паседжаньняў па справе М.Чыгіра каля гарадзкога суда стаялі натоўпы людзей. Часам нават усчыняліся скандалы. Усе жадаючыя прысутнічаць на працэсе проста не маглі зьмясьціцца ў зале нумар 200 (па нечым негалосным распараджэньні менавіта ў гэтай зале звычайна судзяць апазіцыянераў). Хоць паверхам вышэй у будынку гарсуда ёсьць вялікая зала нумар 218, ні судзьдзя Васілевіч, старшынствуючы ў працэсе, ні нават старшыня суда так і не пажадалі вырашыць пытаньне пра перавод паседжаньняў у большае памяшканьне. У выніку дзеля аховы будынку ад прадстаўнікоў грамадзкасьці і прэсы некалькі разоў выклікалі падразьдзяленьне АМАП. Напрыканцы студзеня і ў лютым з-за нядопуску ў залу большасьці супрацоўнікаў СМІ Беларуская асацыяцыя журналістаў была вымушаная заявіць свой пратэст і падаць скаргу ў гарадзкую ўправу міліцыі. З гэтае ўстановы зьявіўся оперупаўнаважаны па асаблівых даручэньнях. "Асабіст" моўчкі выслухаў прэтэнзіі журналістаў і паабяцаў, што іх будуць пускаць. Так і было, але толькі да дня, калі Чыгіру чыталі прысуд.



Міхаіл ЧЫГІР.

## "Нецэнзурнае" слова "Свабода".

19 траўня амаль дакладна паўтарылася гісторыя 19 студзеня. Толькі народ не скандаваў у холе першага паверху суда "Адкрыты суд!". Народ папросту ўжо стаяў на вуліцы: уваход у будынак быў занадта непрыступным з-за "звышканцэнтрацыі" байцоў у чорных берэтах і плямістай форме.

Ня ведаю, хто вырашыў пытаньне з залай і "пропускам" людзей такім чынам. Магчыма, гэта нейкі таемны саюзьнік апазіцыі і нават прыхільнік поглядаў Міхаіла Чыгіра. Вакол гэтай справы і так было шмат шуму на ўвесь сьвет. На кожнае паседжаньне суда прыязджаў нехта з акрэдытаваных у Беларусі замежных дыпламатаў. Часта прыязджалі некалькі паслоў адразу ды яшчэ шэраг супрацоўнікаў кожнай амбасады. Гэта раздражняла ўлады, хоць дыпламатаў у залу прапускалі заўсёды. Але аднойчы судзьдзя парэкамендаваў паслам... паведамляць пра свой прыход на працэс М.Чыгіра загадзя. Маўляў, каб пасьпелі ім заняць месцы ў зале...

## Суд ды справа.

Абвінавачаньні, вылучаныя экс-прэм'еру ў выніку сьледства, фармуляваліся трыма артыкуламі Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь: 166 ч. 2, 167 ч.1 і ч.2, 168. Такім чынам, суд мусіў разабрацца, ці сапраўды М.Чыгір учыніў злоўжываньне службовым становішчам, перавышэньне паўнамоцтваў і халатнасьць.

У склад судовай калегіі ўваходзілі судзьдзі гарадзкога суда Васілевіч, Макаравіч і Пазьняк, абаранялі падсуднага ягоная жонка-юрыст Юлія Чыгір, адвакат А. Пыльчанка, а таксама грамадзкія аба-

ронцы ад "Вясны" і Беларускага хельсінскага камітэту – Б.Гюнтэр і Г.Паганяйла. У якасьці абвінаваўцы выступаў пракурор В.Жынгель, якому М.Чыгір і яго абарона марна спрабавалі даць адвод. Ю. Чыгір заявіла, што пракурор В.Жынгель наўпрост зацікаўлены ў выніку справы супраць яе мужа, а таму падчас знаходжаньня М.Чыгіра пад падпіскай аб нявыезьдзе нават паглыбляў яму паўторным арыштам. В.Жынгель не ўнёс пратэсту супраць парушэньняў закону сьледчымі органамі і катэгарычна выступаў супраць удзелу ў працэсе вядомага абаронцы Гары Паганяйла.

На першых паседжаньнях стаяла пытаньне аб зьяўленьні ў судовай зале істцоў, якія значыліся ў матэрыялах сьледзтва. Адвакаты адразу зьвярнулі ўвагу, што ў якасьці грамадзянскіх істцоў ня могуць выступаць дзяржаўныя органы, Міністэрства фінансаў РБ альбо ягоныя падразьдзяленьні могуць толькі пацьвердзіць законнасьць зыскаў. За чатыры месяцы суд допытаў каля паўсотні сьведкаў па справе. Ніхто зь іх так і ня даў паказаньні супраць падсуднага.

Міхаіл Чыгір заявіў журналістам, што ён вельмі ўдзячны сьведкам: яны дапамаглі ўстанавіць праўду. У ходзе разьбіральніцтва эпізодаў абвінавачаньня высьветлілася некалькі парушэньняў закону, але зусім не М.Чыгірам. Напрыклад, даволі цьмяная гісторыя здарылася з крэдытам "Белаграпрамбанку" фірме "БелОста". Згодна з праверкай Міністэрства фінансаў РБ, фірма вярнула банку большую частку пазыкі – 885 тысяч даляраў з 900 тысячаў. Але сьледзтва палічыла, што Чыгір як былы кіраўнік банка павінен асабіста вярнуць... яшчэ 416 тысячаў. Гаворка ідзе пра пастаўку супрацоўнікамі "БелОста" 15-ці джыпаў з-за мяжы для гарадзенскай фірмы "Юнісбел". Усе гэтыя аўтамабілі неўзабаве зьніклі ў невядомым накірунку. Суд заслухаў у якасьці сьведкі чалавека, асуджанага нібыта за крадзёж машын – сп. Шпіндлера. Па словах сьведкі, калі яго судзілі самога, сьледзтва і суд нават і не спрабавалі высьветліць, хто сапраўды скраў аўтамабілі. Сярод заснавальнікаў гарадзенскай фірмы, адкуль джыпы зьніклі, як распавёў гэты сьведка, былі вельмі цікавыя кадры. Напрыклад, там кіравалі справамі людзі з мясцовых упраўленьняў КДБ і МУС, гарвыканкаму. Джыпы карэйскай вытворчасьці дагэтуль нікім ня знойдзеныя, за іх ніхто не заплаціў падаткаў, і цяпер гэтыя грошы ўлады вырашылі "павесіць" на Міхаіла Чыгіра. Аднак сам падсудны лічыць, што "расьсьледаваньне справы па гэтым эпізодзе засьвяціла вельмі непрыгожую дзейнасьць некаторых адказных асобаў у Гародні, і найперш – супрацоўнікаў пракуратуры". Рэч у тым, што фірма "БелОста", якой кіруемы М.Чыгірам банк выдаў крэдыт, хутка зьвярнулася па дапамогу спачатку ў пракуратуру, а потым і ў міліцыю, у органы падатковых расьсьледаваньняў і ў Камітэт дзяржбясьпекі. Трэба было альбо вярнуць пастаўленыя фірмай машыны, альбо спагнаць грошы за іх. Аднак органы аховы законнасьці не варухнуліся. Цікава, што зьдзелка па аўтамабілях адбылася на мяжы 1994-1995 гадоў, а дырэктар "БелОста" Шпіндлер быў асуджаны за яе толькі ў 1997 годзе, г.зн. пасьля сыходу ў адстаўку прэм'ер-міністра. Магчыма, нехта пабойваўся, што бізьнесьмен загаворыць, і нельга будзе "скляпаць" на экс-прэм'ера сапраўдны кампрамат?

Увогуле, гучная год таму кампанія па вяртаньні крэдытаў, да якой быў спачатку прывязаны арышт кандыдата ў прэзідэнты Чыгіра, падчас суда распалася. Некаторыя інкрымінуемыя падсуднаму няверінутыя крэдыты, як высьветліў суд, аказаліся сплочанымі. Іншыя эпізоды з падачы матэрыялаў сьледзтва выглядалі вельмі заблытанымі, пакуль не пачалі як сьлед разьбірацца. Не скасаваная вялікая сума крэдыту фірме "МСТ" выдавалася яшчэ пры існаваньні адказнасьці за крэдыты страхавых кампаніяў, пазьней зьнятай з іх гаспадарчым судом. Сьведка з Беліндзяржстраху заявіў на судзе, што ў страхавую ўстанову па вяртаньне грошай, выдадзеных Чыгірам, ніхто ніколі не зьвяртаўся. За нявернуты крэдыт "МСТ" таксама ўжо засуджаны адзін прадпрымальнік, які адбывае тэрмін у шклоўскай калоніі. Калі суд выклікаў яго ў якасьці сьведкі, то, як прызнаўся сам Міхаіл Мікалаевіч, узьніклі некаторыя апасеньні. Зьняволены чалавек мог бы сказаць усё, што заўгодна, нават і няпраўду, за абяцаньне выпусьціць яго на волю. Апасеньні спраўдзіліся напалову. Сьведка сказаў, што да яго прыязджаў невядомы чалавек, "ці то сьледчы, ці то бандыт", і вёў з ім размову пра выступ на судзе. Але гэты сьведка не паддаўся на правакацыі і заявіў суду, што не разумее прэтэнзіяў сьледчых органаў да Чыгіра.

Самым дэтэктыўным са шматлікіх эпізодаў абвінавачваньня выглядае гісторыя з адтэрміноўкай мытных плацяжоў на цягачы і рэфрыжэратары. Такая паслуга была аказаная ўрадам і адмысловай камісіяй парламенту фірме "Піаск". Гэта было, калі М.Чыгір узначальваў Савет Міністраў.

Як і ў гарадзенскай гісторыі з джыпамі, гэтыя машыны таксама зьніклі. Афіцыйных зьвестак пра іх месцазнаходжаньне няма, але, згодна з неафіцыйнай інфармацыяй пракуратуры, цягачы ды рэфрыжэратары эксплуатуюцца структурамі адміністрацыі прэзідэнта. Роля М.Чыгіра ў згаданай гісторыі заключалася ў распараджэньні даць адтэрміноўку, але толькі пад гарантыі "Белінвестбанку". Але яго распараджэньне ня выканалі, і былы прэм'ер мяркуе, што "растаможка" машын была зробленая за ягонай сьпіной па тэлефонным званку. Вось толькі – па чыім званку? Але з гэтым, напэўна, павінен разьбірацца не падсудны, а – для пачатку – сьледчыя органы...

## Белыя ніткі часта ірвуцца.

Атрымліваецца, што Лукашэнка ня толькі пажадаў запалохаць свайго магчымага пераемніка на пасадзе. Кіраўнік дыктатарскай дзяржавы яшчэ і пакрываў крадзяжы і махінацыі сваіх "падданых". І чакаў моманту, калі можна будзе сьпіхнуць віну на іншага. Непрыкрытая фабрыкацыя справы супраць М.Чыгіра выявілася ў тым жа эпізодзе з цягачамі і "Піаскам". Сьледчыя прадставілі склад валютна-крэдытнай камісіі Вярхоўнага Савету на той час, калі М.Чыгір ня мог рабіць ніякіх распараджэньняў адносна фірмы "Піаск". Ён тады яшчэ ня быў прэм'ерам. Надта разумна для звычайнай памылкі сьледзтва, асабліва для становішча М.Чыгіра.

## Суд скончаны, справа – працягваецца.

І сам Міхаіл Чыгір, і беларуская апазіцыя лічаць гэтую крымінальную справу палітычнай. Апраўданьне былога кіраўніка ўрада судом аб'яднаная апазіцыя нават неаднойчы называла адной з умоваў свайго ўдзелу ў перагаворах з Лукашэнкам. Гарадзкі суд і лукашэнкаўскі рэжым зрабілі палавінчатую саступку. Чыгір быў апраўданы амаль па ўсіх эпізодах абвінавачаньня. Выключэньнем стаўся эпізод с фірмай "Піаск" – менавіта той, які таямніча зьвязаны з крадзяжом цягачоў і рэфрыжэратараў, сьляды ад якіх вядуць некуды ў адміністрацыю Лукашэнкі.

Трохгадовы турэмны тэрмін з двухгадовай адтэрміноўкай, працяг сьледзтва па двух вылучаных асобна эпізодах крымінальнай справы – усё гэта фармальна не дазволіць М.Чыгіру браць удзел у любых выбарах у органы ўлады, якія мусяць быць праведзеныя ў бліжэйшыя паўгады-год. Тым ня менш, Міхаіл Чыгір заявіў адразу пасьля зачытваньня прысуду: "Я зраблю ўсё, каб стаць прэзідэнтам Беларусі". Запалохаць гаспадарніка, які стаў палітычным дзеячам, не ўдалося. Больш за тое: М.Чыгір упэўнены, што паднятая ўладамі шуміха вакол яго змагла дадаць яму за мінулы год папулярнасьці.

Юлія Чыгір, жонка і адвакат палітычнага асуджанага, падала ў пракуратуру г.Мінску скаргу на дзеяньні міліцыі. 19 траўня перад пачаткам зачытваньня прысуду яе мужу амапаўцы спрабавалі не дапусьціць Юлію Чыгір у будынак. У сутычцы яе моцна штурхнуў камандзір АМАП, у выніку ў жанчыны была падрапаная аб сьцяну рука. У сваю чаргу, пракуратура лічыць, што гэта Юлія Станіславаўна нанесла цялесную шкоду міліцыянту – укусіла яго за вуха. Ці скардзіўся на гэта сам амапавец, высьветліць не ўдалося, але пра заведзеную на жонку М.Чыгіра справу гаворыць сам генпракурор. Разьбіральніцтва з сям'ёй Чыгіроў (альбо "разборкі" з ёю) працягваюцца...

**Тацяна СЬНІТКО.**



У залу суда не пускалі нават родных...

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*5 чэрвеня* ў г.Гродна на лікёра-гарэлачным заводзе адбыўся несанкцыянаваны страйк. Ініцыятарам акцыі стаў прафсаюзны камітэт заводу. Рабочыя адмовіліся працаваць у знак пратэсту супраць катастрафічнага падзеньня заробку.

*5 чэрвеня* першы намесьнік старшыні Дзяржкамдруку Беларусі В.Глушакоў вынес папярэджаньне гродзенскай газеце "Пагоня". Прычынай стала зьмешчаная тут аб'ява Маладога Фронту наконт правядзеньня ім "Алімпіяды-2000". Тым самым газета парушыла арт. 5 Закону "Аб друку ды іншых сродках масавай інфармацыі". На думку В.Глушакова, аб'ява зьяўляецца "распаўсюджаньнем інфармацыі ад імя грамадзкага аб'яднаньня, якое не прайшло ва ўстаноўленым парадку дзяржаўнай рэгістрацыі".

*5 чэрвеня* ў Мінскім гарадзкім судзе павінна было адбыцца чарговае судовае паседжаньне, на якім чакалася апошняе слова журналіста і праваабаронцы Валеры Шчукіна. Паслухаць выступ В.Шчукіна прыйшлі прадстаўнікі замежных амбасадаў, журналісты і нядаўна асуджаны па палітычным абвінавачаньні Міхаіл Чыгір. Але паседжаньне суда не адбылося ў сувязі з хваробай судзьдзі. Яно было перанесенае на 8 чэрвеня, пра што абвясьціла сакратар.

*6 чэрвеня* ў г. Шклове адбыўся разгляд справы старшыні шклоўскага аддзяленьня "Беларускай арганізацыі працоўных жанчынаў" Любові Каверка, якая абвінавачваецца ў парушэньні арт. 156 КаАП РБ.

*7 чэрвеня* ў кіраўніка Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі ў выніку прафілактычных работаў сьпецыяліст па сувязі выявіў праслухоўваючую прыладу, якая была ўмантаваная ў тэлефонную лінію паміж паверхамі. "Тое, што мы падазравалі і аб чым неаднаразова гаварылі, знайшло свой рэчавы доказ", — сказаў А.Лябедзька. Ён упэўнены, што падобныя праслухоўваючыя прыстасаваньні ўсталяваныя на тэлефонных лініях у кватэрах апазіцыйных палітыкаў, у офісах партыяў і грамадзкіх арганізацыяў. Аппарат выраблены заводзкім спосабам. Анатоль Лябедзька абвінавацїў у незаконных дзеяньнях беларускія сьпецслужбы, якія выконваюць загады ўладаў. А.Лябедзька плануе зьвярнуцца ў пракуратуру з патрабаваньнем дасьледваць гэты факт злачыннага ўмяшальніцтва ў асабістае жыцьцё.

*8 чэрвеня* ў судзе Круглянскага раёну Магілёўскай вобласьці адбылося слуханьне справы, дзе вырашаўся лёс часткі канфіскаванай і выстаўленай на аўкцыён маёмасьці былога міністра сельскай гаспадаркі і харчаваньня Беларусі Васіля Лявонава. Дача ў вёсцы Міхайлаўка Кругляскага раёну была канфіскаваная ў Васіля Лявонава ў адпаведнасьці з рашэньнем Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь. На пачатку траўня ў мясцовых і дзяржаўных сродках масавай інфармацыі зьявілася абвестка пра продаж дачы з аўкцыёну. Пры гэтым пералічваліся ўсе пабудовы і называлася імя былога ўладальніка. Але як высьветлілася, ня ўся выстаўленая на аўкцыён уласнасьць належала Васілю Лявонаву. У выніку судовага разьбіральніцтва з-пад арышту была вызваленая лазьня, якая належыць дачцы В.Лявонава – Тацяне Бако. Але сама дача хутка будзе прададзеная з аўкцыёна. Паводле папярэдняй інфармацыі, ужо ёсьць 6 патэнцыйных удзельнікаў яго.

*9 чэрвеня* дэпутаты Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу на пленарным паседжаньні падтрымалі ўнесены ўрадам законапраект "Аб амністыі некаторых катэгорыяў асобаў, якія ўчынілі злачынствы". Цяпер сьледчыя ізалятары і папраўча-працоўныя ўстановы перапоўненыя ў паўтары разы. У іх утрымліваецца 60 тысячаў чалавек пры лiміце 42,7 тысячаў месцаў. Палова з тых, хто ўзяты пад варту, не працуюць. Назіраецца рост інфекцыйных захворваньняў, туберкулёзу, СНІДу. Акрамя таго, дзяржава нясе значныя расходы на ўтрыманьне зьняволеных. Законапраект аб амністыі прадугледжвае вызваленьне ад пакараньняў у выглядзе пазбаўленьня волі, а таксама ад пакараньняў, не зьвязаных з пазбаўленьнем волі, асобаў, асуджаных за злачынствы, якія не ўяўляюць вялікай грамадзкай небясьпекі. Згодна з разьлікамі МУС, пры рэалізацыі закону аб амністыі з месцаў пазбаўленьня волі будзе вызвалена 10700 асуджаных.



30 траўня сотні мінчукоў прыйшлі да станцыі метро "Няміга", дзе год таму адбылася трагедыя: хаваючыся ад дажджу, людзі ўтварылі на прыступках уваходу страшэнную цісканіну, у якой загінула 53 чалавекі. Родныя, блізкія, знаёмыя тых, хто загінуў тут, сабраліся, каб памянуць заўчасна памёрлых... Мітрапаліт Філарэт на месцы трагедыі адслужыў малебен па 53 нявінных душах.



Фота "ПнВ"

*9 чэрвеня* на пашыраным паседжаньні наглядальнага савету, прысьвечаным стратэгіі і тактыцы Беларускага хельсінкскага камітэту, быў выказаны недавер старшыні БХК Тацяне Процька. Недавер быў выказаны ў адкрытым лісьце наступнага зьместу: "У апошні час нас непакояць небясьпечныя тэндэнцыі ў працы кіраўніка БХК, якія выходзяць за рамкі мандату, выдадзенага на вядзеньне грамадзкай дзейнасьці. Гэта можа зьнішчыць арганізацыю. Паводзіны старшыні БХК дыскрэдытуюць усю праваабарончую дзейнасьць і здольныя прывесьці да ліквідацыі камітэту, такога патрэбнага ў нашых умовах. Старшынёй БХК допускаюцца недаравальныя памылкі, якія прымусілі нас задумацца, ці маем мы права рабіць выгляд, што ня бачым, як кіраўнік БХК не падпарадкоўваецца волі тых, хто даверыў ёй гэтую вельмі адказную пасаду. Таму мы рашуча выказваем недавер старшыні БХК спадарыні Процька". Пад адкрытым лістом стаяць подпісы Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Барыса Звоскава, Юрыя Хадыкі, Лявона Баршчэўскага, Уладзіміра Арлова, Жаны Літвіной, Уладзіміра Халіпа, Юрыя Хашчавацкага, Валянціна Тараса, Карласа Шэрмана. На сходзе Тацяна Процька напісала заяву, што складзе свае паўнамоцтвы да зьезду БХК, які адбудзецца ў верасьні 2000 г.

*12 чэрвеня* ў Першамайскім раённым судзе г.Мінску адбылося чарговае паседжаньне па зыскавай заяве сп-ні В.Церлюкевіч супраць вядучага тэлевізійнай праграмы "Рэзананс" А. Зімоўскага па абароне гонару і годнасьці. Гэта было першае паседжаньне пасьля абвешчанага судом перапынку дзеля правядзеньня моўнай экспертызы публічных выказваньняў тэлевядучага. Нагадаем, што зыскавую заяву сп-ня Церлюкевіч падала пасьля праграмы "Рэзананс", прысьвечанай падзеям 17 кастрычніка 1999 году, у якой журналіст назваў удзельнікаў акцыі "Марш Свабоды-1" "групай адмарозкаў". Гэтыя словы сп-ня Церлюкевіч успрыняла на свой конт і

зьвярнулася ў суд, каб абараніць свае гонар і годнасьць. Дзеля правядзеньня моўнай экспертызы суд зьвярнуўся ў камітэт па журналісцкай этыцы Беларускага саюзу журналістаў, сябрам якога зьяўляецца адказчык – А.Зімоўскі. І тут спрацавала правіла "сваіх не здаваць" : з БСЖ у суд было накіраванае заключэньне, што "такія выразы (напрыклад, "група адмарозкаў) у пэўных выпадках дапушчальныя. Гэта тропы, адпаведныя памфлетнаму і сатырычнаму стылю". Атрымаўшы падтрымку калегаў з Саюзу журналістаў, А.Зімоўскі трымаўся спакойна і патрабаваў вынясеньня судовага рашэньня неадкладна, але паколькі на судовае паседжаньне В.Церлюкевіч не змагла зьявіцца па пакуль што нявысьветленых прычынах (не выключаецца псіхалагічны ціск), працэс быў перанесены на 16 чэрвеня.

*13 чэрвеня* ў 12 гадзін у Мінскім гарадзкім судзе павінен быў прагучаць прысуд па крымінальнай справе, узбуджанай супраць лідэра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Міколы Статкевіча і вядомага журналіста і праваабаронцы Валерыя Шчукіна. Калі каля будынку суда сабраліся прадстаўнікі замежных амбасадаў, журналісты, прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў і простыя людзі, якія пажадалі выказаць падтрымку абвінавачваемым, высьветлілася, што судовае паседжаньне зноў перанесенае на іншы дзень. Пра перанос паседжаньня самім падсудным было паведамлена ў 10 гадзінаў раніцы, і яны не пасьпелі праінфармаваць пра гэта сродкі масавай інфармацыі.

*У чэрвені* ў суд Маскоўскага раёну г.Мінску была пададзеная заява ад сяброў гарадзкой арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якія лічаць, што Мінгарвыканкам, забараняючы тыя ці іншыя акцыі апазіцыі, парушае правы грамадзянаў на свабоду сходаў. Дзевяць сяброў АГП сьцьвярджаюць, што Мінгарвыканкам ня мае права зьмяняць мэты і месцы пікетаваньняў, якія ўказваюцца ў заявах арганізатараў. Скажам, пікет, прысьвечаны гадавіне зьнікненьня Юрыя Захаранкі павінен адбывацца на месцы здарэньня, а не на плошчы Бангалор, як гэта "дазваляе" Мінгарвыканкам. Заяўляльнікі спадзяюцца, што суд будзе аб'ектыўным і справядлівым.

# Выпіў толькі шклянку вады...

*(Пачатак на стар.2)*

ночы. Ён застаўся без абеду (у ізалятары часовага ўтрыманьня кормяць толькі раз у дзень—у абед), а вечарам толькі выпіў вады са шклянкі, прапанаванай яму сьледчым Аляксандравым. Пасьля гэтага ён ня мог засяродзіцца і кепска памятае наступныя падзеі. На працягу некалькіх дзён яму было млосна, яго ванітавала, што часта з'яўляецца прыкметай інтаксікацыі. Па-другое, у майго мужа хранічны гепатыт, але ў апошнія некалькі гадоў яго аналізы крыві знаходзіліся ў межах нормы. Пасьля гэтага эпізоду я настояла на правядзеньні біяхімічнага аналізу крыві, мяркуючы, што ўзьдзеяньне таксічнага рэчыва можа спраўакаваць абвастрэньне хранічнага гепатыту. У выніках аналізу ад 9 жніўня і 17 верасьня 1999 г. бачныя зьмены, характэрныя для рэакцыі клетак печані на дзеяньні неякага шкоднага фактару, магчыма, медыкаментознага сродку. Фактычна, атрымаўшы пацьверджаньне сваім падозраньням, я зрабіла заяву для прэсы. Пасьля гэтага сьледчы Цераховіч абвінавацію мяне ў "паклёпніцкіх выдумках адносна ўжываньня да майго мужа псіхатропных прэпаратаў" і на гэтай падставе адмаўляў мне ў спатканьні з мужам на працягу паўгода. Я лічу, што адмова ў спатканьнях – гэта спроба аказаць на мяне ўціск ў сувязі з маімі зваротамі наконт незаконных метадаў вядзеньня сьледзтва. Я працягваю настойваць, што ў дачыненьні да майго мужа былі ўжытыя недазволеныя метады ўзьдзеяньня, а атрыманыя ад яго ў такім стане паказаньні былі выкарыстаныя дзеля затрыманьня рэктара Гомельскага медыцынскага інстытута Юрыя Бандажэўскага. Па ўсёй верагоднасьці, гэта і зьяўлялася асноўнай мэтай "аперацыі". Мой муж быў у сяброўскіх адносінах з Юрыем Бандажэўскім, і гэта было шмат каму вядома. Яны разам працавалі над вывучэньнем узьдзеяньня малых доз радыяцыі на арганізм чалавека. Пад кіраўніцтвам прафесара Бандажэўскага мой муж абараніў кандыдацкую дысертацыю, а пасьля распачаў працу над доктарскай. Я лічу, што Юры Бандажэўскі пацярпеў за сваю пазіцыю ў адносінах наступстваў аварыі на ЧАЭС, а майго мужа проста выкарысталі як чалавека, які добра ведае прафесара.

У канцы ліпеня мой муж накіраваў у пракуратуру ліст, дзе адмаўляўся ад дадзеных раней паказаньняў. Але менавіта на іх падставе прафесару Бандажэўскаму 4 жніўня было прад'яўленае абвінавачаньне. Мяркуючы па адказах афіцыйных асобаў з пракуратуры рэспублікі, адмова майго мужа ад першапачатковых паказаньняў не ўспрымаецца і, відаць, яны зьяўляюцца падставовымі для гэтай справы.

На працягу 10 месяцаў мой муж, адзіны прадстаўнік "групы хабарнікаў" (у якасьці абвінавачаных па справе праходзіць 18 чалавек)—знаходзіцца ў СІЗА. Умовы ўтрыманьня — перанаселенасьць, кепскае харчаваньне, маральны ціск - вядомыя. На неаднаразовы зварот у разнастайныя інстанцыі пра зьмяненьне меры стрыманьня станоўчага адказу не атрымана. Мой муж мае шмат хранічных захворваньняў. За ўвесь час утрыманьня пад вартай яму не былі праведзеныя інструментальныя метады дасьледаваньня, на якіх я настойваю ў сувязі з хранічным пагаршэньнем стану яго здароўя.

Я лічу, што ўтрыманьне майго мужа ў СІЗА абумоўленае жаданьнем сьледчага атрымаць ад яго пацьверджаньне сваіх першапачатковых паказаньняў".

4 чэрвеня 2000 г. Натальля Раўкова даведалася, што 26 траўня яе муж абвясьціў галадоўку. Начальнік Гомельскага СІЗА заявіў, што Раўкоў займаецца лячэбным галаданьнем, таму з ім усё нармальна.

5 чэрвеня 2000 г. Натальля Раўкова зьвярнулася ў Генеральную пракуратуру з заявай, у якой просіць допусьціць яе ў працэс у якасьці прадстаўніка свайго мужа.

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА.**

# Жыцьцё "Вясны"

## У Польшчы будзе стварацца фонд дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў на Беларусі

*25—27 траўня* ў г. Беластоку адбылася канферэнцыя «Ад аўтарытарнай дзяржавы да дэмакратычнай», на якой прысутнічалі прадстаўнікі Праваабарончага Цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі і Валянцін Стэфановіч. Падчас свайго выступу пра сітуацыю з парушэньнямі правоў чалавека ў Беларусі, старшыня ПЦ «Вясна» А. Бяляцкі прапанаваў удзельнікам канферэнцыі з польскага боку — прадстаўнікам недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў і палітычных партыяў, стварыць у Польшчы «Фонд дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў». Гэтая думка была ўхваленая польскімі ўдзельнікамі канферэнцыі. Яны запэўнілі беларусаў, што праца па стварэньні такога фонду пачнецца неадкладна.

## Суды ў Беларусі не выконваюць функцыі незалежнай галіны ўлады

*3-4 чэрвеня* ў Рэспубліканскім спартыўным комплексе "Раўбічы" адбылася канферэнцыя "Праблемы судовай абароны правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь", якую ладзіў "Цэнтр па правах чалавека".

У канферэнцыі бралі ўдзел прадстаўнікі Вярхоўнага суда РБ, Канстытуцыйнага суда РБ, Вышэйшага гаспадарчага суда РБ, Акадэміі міліцыі РБ, судзьдзі, адвакаты, выкладчыкі юрыдычных факультэтаў ВНУ, праваабаронцы.

У сваіх выступах прамоўцы крытычна ацэньвалі дзейнасьць судоў у нашай краіне. Суды не выконваюць ролю незалежнай галіны ўлады, узровень кваліфікацыі судзьдзяў у апошнія гады значна панізіўся, дзейнасьць судоў мае відавочны карны ўхіл, існуе шмат праблемаў з абаронай правоў чалавека падчас судовых працэсаў.

Кожны з выступоўцаў уносіў свае прапановы, дзеля паляпшэньня дзейнасьці судоў. Падчас працы канферэнцыі выпрацаваная рэзалюцыя па праблемах судовай абароны правоў чалавека, якая была накіраваная ў сродкі масавай інфармацыі, дзяржаўныя і недзяржаўныя ўстановы.

У працы канферэнцыі актыўны ўдзел бралі прадстаўнікі ПЦ "Вясна" Барыс Гюнтэр, Алесь Данільчык і Леанарда Мухіна.

# Сяргей П'ЯНЫХ: Дзень няволі...

## Нататкі відавочцы пра падзеі 25 сакавіка 2000 году ў Мінску

Прыкладна ў чатырнаццаць гадзінаў з ангару пачалі адпускаць журналістаў. Астатніх затрыманых па адным заводзілі ў пакой, дзе знаходзіліся трое ў цывільным з відэакамерай і некалькі чалавек у форме. Той, які быў з відэакамерай, спытаў, як мяне завуць і папрасіў павярнуцца направа-налева. Паколькі здымкі рабіліся без маёй згоды на гэта, на пытаньні я не адказаў. Пасьля гэтага з залы па адным пачалі выводзіць людзей, якія мелі пашпарты. Потым сталі запісваць па трэцім разе і выводзіць з ангару людзей, што мелі хоць якія-небудзь дакументы. У мяне з сабой было пасьведчаньне кіроўцы, але старэйшы лейтэнант сказаў мне, што я пайду адным з апошніх. Урэшце рэшт, у зале засталося каля 25 чалавек.

Нейкі час нас не турбавалі. Я хадзіў па ангары і пытаўся ў афіцэраў, за што нас арыштавалі, ці паводле закону гэта зрабілі і калі адпусьцяць. На гэта мне адказвалі, што не яны нас затрымлівалі і ўвогуле мы можам быць вольнымі. Аднак салдаты, што стаялі каля выхаду, нас не выпускалі. "Не паложана!" — казалі яны. Гэтыя словы гучалі замест адказу кожны раз, калі камусьці з іх нешта не падабалася ў нашых паводзінах.

Каля 17 гадзінаў у ангары зьявіўся нейкі падпалкоўнік. Яго пачалі распытваць на якой падставе нас тут трымаюць. Падпалкоўнік назваўся Сяргеем Цесаўцом і сказаў, што асабіста ён нас тут не трымае. "Дык што, мы можам быць вольнымі?" "Калі ласка..."

Салдаты і афіцэры расступіліся, і ўсе 25 чалавек пайшлі выхаду з ангару. Я падбег да старэйшага лейтэнанта, каб забраць свае асабістыя рэчы і раптам бачу, што ўсе арыштаваныя вяртаюцца назад. Што такое? Кажуць, што не пасьпелі нават дайсьці да брамы, як падбеглі канваіры і ўсіх павярнулі назад. А Анатоля Лябедзьку, які паспрабаваў абурыцца, білі па нырках. Пазьней мы даведаліся імя таго, хто біў: гэта быў Андрэй Уладзіміравіч Федзякін.

Праз нейкі час у ангар увайшлі чалавек пятнаццаць міліцыянтаў і пачалі пісаць рапарты з агульнага ўзору, пастаянна кансультуючыся з афіцэрамі. Мой пратакол асабістага агляду быў складзены ў 18.30 С.Н.Косьцікавым і А.Н.Ніціценкам, а пратакол затрыманьня, нібыта складзены ў 12.20, быў падпісаны С. Н. Косьцікавым, Р. В. Лук'янавым і А. В. Сьмірновым.

Нейкі палкоўнік падышоў да Анатоля Лябедзькі і карэспандэнта газеты "Наша свабода" Алега Грузьдзіловіча і загадаў ім выйсьці з залы. На выхадзе іх чакаў канвой.

Пачалі выводзіць з ангару і астатніх. Зьявілася надзея патрапіць дамоў. Аднак міліцыянты ставілі нас перад выбарам: падпісваеш пратакол — ідзеш дамоў, не падпісваеш — пару сутак пасядзіш у турме. Я напісаў, што ня згодны з пратаколам, але ў суд прыйду ў панядзелак у 9.00 абавязкова. Не паверылі. Пасадзілі ў аўтазак. Са зьдзіўленьнем бачу, што там, аказваецца, сядзяць хлопцы, якіх нібыта адпусьцілі дамоў гадзіну таму. Тэмпература на вуліцы — ніжэй за нуль градусаў. Падлога і сьцены ў аўтазаку металічныя. Пачынаем мерзнуць. А да нас тым часам падсаджваюць новых і новых людзей. Праходзіць яшчэ гадзіна. Нас выводзяць на вуліцу па адным і суправаджаюць назад у ангар. Зноў здымаюць на відэакамеру. Цывільны з камерай ужо іншы, а міліцыянтаў стала яшчэ больш.

Страху ўжо няма. Страшна тады, калі твой лёс невядомы. А калі яго за цябе ўжо вырашылі, застаецца толькі чакаць, бо зьмяніць нічога немагчыма...

Хвілінаў праз пятнаццаць нас вывелі з ангару (ён знаходзіцца на тэрыторыі в/ч 5448) і павезьлі ў невядомым накірунку.

### Сьпецпрыёмнік-размеркавальнік.

Прывезьлі нас у сьпецпрыёмнік-размеркавальнік на вул. Акрэсьціна. Выстраілі ў шарэнгу, агледзелі і пасадзілі ў камеру. Было каля 20.00. Нагадаю, што затрымалі нас каля 12 гадзінаў дня і ўвесь час у ангары мы правялі на нагах. Стома звaліла нас. І не зважаючы на пах мачы ў камеры і павышаную вільготнасьць, мы ляглі адпачыць. Ляжак — узвышэньне ў камеры — агульны, дзевяць чалавек на ім зьмяшчаюцца з цяжкасьцю: паварочвацца на другі бок трэба па камандзе, пасцельных прыналежнасьцяў няма ніякіх, аднак стома сваё ўзяла... Прыблізна праз паўтары гадзіны мяне і яшчэ трох хлопцаў вывелі да дзяжурнага. Прапаршчык спытаў наконт заўвагаў, і я запісаў у ягоную кнігу пра пабоі, што былі нанесеныя мне падчас затрыманьня. Пасьля гэтага нас правялі ў іншую камеру, дзе ўжо былі палітычныя — Юрась Беленькі, Яўген Лемеш, Юры Барок ды іншыя.

*(Працяг будзе.)*

*(Працяг. Пачатак у № 10)*




**Камера ў сьпецпрыёмніку-размеркавальніку на Акрэсьціна, дзе сядзеў С.П'яных. Праз падобныя камеры прайшлі сотні палітычных зьняволеных у Беларусі.**

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.**
**Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220013 Менск, а/с 49.**
**E-mail:viasna@spring96.org**
**www.spring96.org**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Праваабарончага Цэнтру "Вясна"*